# Сядзіба

**Выпуск № 330** **Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ**

## Два дні для памідораў

**Усе, хто выпісвае ці набывае брашуры нашага аддзела (газета «Для вас»), ведае, што пасля поўдня 26 сакавіка і да поўначы 29 сакавіка — найлепшыя дні для высадкі і сяўбы памідораў, перцаў, баклажанаў, фізалісу на расаду. Спадарожнік Зямлі — Месяц — будзе знаходзіцца ў самым прадуктыўным знаку задыяка — Раку.**

Усё ў вас павінна ўдавацца, бо яшчэ аднаго такога спрыяльнага часу трэба чакаць больш за трыццаць дзён! Так што не ўпусціце свой шанц. Зрэшты, і наш аддзел друкуецца сёння таксама пад гэтым знакам. Значыць усё, аб чым вядзём гутарку, толькі на карысць агародніку і садаводу.

Звернемся да расады перцаў і памідораў. Галоўнае ў іх гадаванні — забеспячэнне прамым сонечным святлом, штодзённай устойлівай вільгаццю, стабільным цяплом, рыхлай глебай і... падкормкай. Апошняе тычыцца толькі расады, якая распікіравана. Пры значным забеспячэнні азотам абавязкова даць добрае фосфарнае сілкаванне. У ёмістасці пакладзіце па пяць зярнятак суперфасфату (уцісніце ў глебу). З палівамі ўгнаенне будзе «размывацца» і дасягаць каранёў. Гэта найлепшы сродак даць слабым раслінам «другое» дыханне.

Яшчэ адзін важны крок да высокага ўраджаю — даць падкормку борам і меддзю. Першы элемент — для росту і засцярогі ад хваробаў, другі — для высокага ўраджаю. Справа ў тым, што ў «дзіцячым узросце» памідор і перац закладваюць свае будучыя суквецці. З іх будуць утварацца плады. Значыць, трэба падумаць і пра такую «дробязь», як падкормка.

У цёплай вадзе растварыць медны купарвас і буру. Абодвух элементаў узяць столькі, колькі заважыць звычайнае... зярнятка гароху. Канчатковая колькасць раствору — літр. Вось такімі «лекамі» і паліць расаду, імкнучыся, каб кожная асобіна атрымала сваю долю. Вядома, расада ладная — у яе дружна развіваюцца два сапраўдныя лісточкі. Ваду з борна-меднай падкормкай не пакідаць на «другі раз», выкарыстаць усю. Вельмі важна, каб ля сцябла ўвесь час узнімаўся маленькі «пагорачак». Там абавязкова будуць утварацца новыя карані.

Цяпер пра насенне. Звычайна ў гэты перыяд (канец сакавіка) выспяваюць зярняткі для летняга гадавання ў адкрытым грунце. Яны павінны быць гатовымі да пачатку чэрвеня, калі мінуць апошнія замаразкі. На зыходзе бягучага месяца рыхтуюць і так званую масавую расаду для продажу на базары. Сёлета яна будзе каштаваць вельмі дорага, бо многія дачнікі не ў стане выгадаваць якасныя расліны на сваіх падаконніках. А мець чырвоныя сакавітыя плады хочацца ўсім.

## «Ураджайныя градкі» ў кіёсках, іх можна заказаць па пошце, падпісацца

**Выйшаў з друку чарговы, 18-ы выпуск газеты-брашуры «Для вас». Ён прысвечаны замежным тэхналогіям вырошчвання агародных культур. Рассылаецца падпісчыкам (іх стала больш), дастаўляецца ва ўсе кіёскі «Саюздруку» рэспублікі і горада Мінска, многія магазіны («Сельгаскніга», «Аграхімік», «Насенне» і інш.).**

Каго зацікавілі нашы выпускі, паведамляем, што на майскі нумар і наступны чэрвеньскі бягучага года можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Заплаціце 3.000 рублёў — і вам прынясуць дадому нашы «Ураджайныя градкі».

У мінулым годзе брашурка рассылалася па пошце. Амаль дзве з паловай тысячы дачнікаў і сялян атрымалі каштоўнае выданне. Сёлета мы зноў будзем адпраўляць свае выпускі ўсім жадаючым. Можна заказаць адну брашуру, а можна ўсе чатыры адразу. Калі заказваеце адзін экземпляр, трэба заплаціць 4 тысячы рублёў, два і больш — па 3,5 тысячы за кожны экземпляр. Розніца ў кошце звязана з выдаткамі на заказныя паштовыя адпраўленні і аплату работы людзей, якія будуць займацца гэтай справай.

***Вось пералік выданняў:***

**№ 15 — расказ пра ўгнаенні, насенняводства, як пазбегнуць нітратаў у прадукцыі, кароткія паведамленні пра буракі, капусту, моркву, агуркі і іншыя культуры.**

**№ 16 — «Сеем!» Усё аб падрыхтоўцы насення да сяўбы, дакладная сяўба без прарэджвання, што культуры выносяць з глебы, месячны каляндар маскоўскіх вучоных.**

**№ 17 — «Паслёнавыя». Як атрымаць з соткі 500—700 цэнтнераў бульбы і тону памідораў, што трэба ведаць пра вырошчванне перцаў, фізалісу, баклажанаў, тытуню. Месячны каляндар сяўбы і догляд раслін прафесара Фелікса Вялічкі (Масква), як самому скласці такі каляндар.**

**№ 18 — «Зарубежныя тэхналогіі». Парады даюць амерыканскія, англійскія і чэшскія вучоныя. Каляндар работ дачніка ў маі.**

На пераводзе ў двух месцах — верхняй і ніжняй частках (лепш больш падрабязна і разборліва запаўняць другую (ніжнюю) частку, бо яе атрымлівае рэдакцыя) напісаць свой адрас з індэксам, прозвішча, імя і імя па бацьку, што хочаце набыць (пералік).

**Разборліва пішыце разліковы рахунак і назву банка: г. Мінск, АКБ «Белбізнесбанк», рахунак газеты «Звязда» 3012210270016, код 739.**

**Пераводы адпраўляйце на адрас газеты «Звязда»: 220013, г. Мінск, Б. Хмяльніцкага, 10а.**

Ніякіх дадатковых пісьмаў пісаць не трэба. Як толькі мы атрымаем перавод на дакладна абазначаную суму, вам будуць высланы выданні.

## Парэчкі любяць... вадаёмы

**З ягаднікаў першымі пачнуць вегетацыю парэчкі — чорныя, чырвоныя, белыя.**

Цяпер няма дач і агародаў, якія б не радавалі вока багатымі ўраджаямі.

Што патрэбна гэтым невысокім кусцікам — і не пытайцеся: безумоўна, рыхлая ўгноеная глеба, сонца і ўстойлівае водазабеспячэнне. На апошняе звяртаем увагу, бо свае карані кустоўе размяшчае ў верхніх слаях. Калі вельмі горача, расліна пакутуе, бо не можа здабыць вільгаці. Зрэшты, усе заўважылі, што найлепшыя экземпляры прыгажуніпарэчкі якраз і сустракаюцца ля вадаёмаў. Там вадзіцы ўдосталь, каб напіцца і назапасіць наперад.

Вясною (асабліва сёлетняга года) няхваткі ў вільгаці на дачах не будзе. Вунь якія пласты снегу. Так што на першым часе трэба паклапаціцца толькі пра сілкаванне. Нагадваем адразу, што ўсе лічбы, якія прыводзяцца, узяты з зарубежных выданняў. Магчыма, іх варта крыху зменшыць. Але ці пойдзе такая паўмера на карысць?

Разаб'ём пасадкі на дзве катэгорыі: са штогадовым «кармленнем» і з перыядычным — праз год ці два. У першым выпадку ўсе элементы ў значнай колькасці. На 10 кв. метраў уносім: для парэчак і агрэсту, якія пладаносяць, — па 70 г азотных, па 40 г фосфарных і 100—120 г калійных. Іх можна замяніць комплексным угнаеннем — да 180 г на тыя ж 10 кв. м. Калі ўносім і арганіку (а гэта найлепш) у дозах да 50 кг на 10 кв. м, тады колькасць «мінералкі» можна зменшыць на трэць. Вельмі важна загарнуць угнаенні ў раёне залягання каранёў — на 5—8 сантыметраў. Калі ж даём корм праз год, дозы павялічыць на трэць. Вясною абавязкова ўнесці салетру — 150 г на 10 кв. м.

Чорная парэчка і агрэст вельмі схільныя да мучністай расы. Асабліва калі яны растуць у цяні і калі вельмі вільготнае надвор'е. Сляды хваробы відаць ранняй вясною: верхавінкі скрыўленыя, пупышкі вельмі слабыя, усюды чорна-рыжыя налёты. Такія верхавінкі зрэзаць і спаліць. Беларускія сяляне паспяхова процістаялі хваробе, прымяняючы свежы каравяк. Яго разводзілі да кансістэнцыі смятаны, настойвалі два-тры дні і вылівалі пад кусты, імкнучыся закрыць усю прастору пад кронамі 5-сантыметровым слоем «добра». Зрэшты, гэта была і вельмі дзейсная падкормка.

Перад цвіценнем і адразу пасля яго дзейнічалі сера і гаспадарчае мыла, ці аднапрацэнтная канцэнтрацыя бардоскай сумесі (100 г меднага купарвасу і 100 г нягашанай вапны на 10 літраў вады). Цяпер ёсць супраць мучністай расы і новыя прэпараты. Трэба пытаць у магазінах «Белсельгасхіміі».

Яшчэ адзін вораг чорных парэчак — так званы пупышкавы клешч. Ён залазіць у пупышкі яшчэ на зыходзе лета і цярпліва чакае цяпла ўсю зіму. Адна асобіна можа даць жыццё тысячы да сябе падобных. Калі на галінцы пяць ці больш паражоных пупышак, усю галінку зрэзаць і спаліць. Калі менш, то акуратна адрэзаць ці зняць пупышкі і зноў-такі спаліць. Як частковую меру можна парэкамендаваць апрацоўку парэчак... кіпенем. Рабіць гэта вельмі рана (зямля яшчэ мёрзлая). Але кляшча, які спіць у самой пупышцы, вада не заўсёды дастае. Найбольш яна знішчае ворагаў на паверхні галінак.

Добра будзе выразаць паламаныя галінкі, хворыя. Здаровыя падвязаць ці проста падняць на апору. Пад кронай кустоў пасадзіць часнок, пасеяць кроп ці гарох. Як толькі гарох утворыць моцную зялёную масу, яго зрэзаць, закапаць. Гэта будзе добрым так званым зялёным угнаеннем.

## У цеснаце, але не ў крыўдзе

***Якая адлегласць паміж агароднымі раслінамі найлепшая? Раскажыце, што такое «плошча сілкавання» агародных культур.***

**Іван і Вольга КІЗЛЯРОВЫ,** *г. Мінск.*

Вучоныя і практыкі аднадушныя: каб на агародзе ўсё расло найлепшым чынам, трэба захоўваць адпаведную адлегласць адной асобіны ад другой. Справа ў тым, што «цесны інтэрнат» для іх зусім не падыходзіць. І памідор, і морква, і агурок з рэдзькай патрабуюць ізаляцыі паміж радкамі і ў радках. З гэтай нагоды і расада павінна быць хоць і ў цеснаце, але не ў крыўдзе адна на адну. Прыведзеныя лічбы мінімальныя. Вядома, чым большая прастора — тым вышэйшы ўраджай. Заўважым яшчэ, што міжрадкоўі і сама зямля пад раслінай павінны быць порыстымі. Туды абавязкова трапляе паветра. З гэтай нагоды вельмі шмат вады не ліць, а калі палілі, падрыхліце зямлю.

Плошча сілкавання — гэта адносіны шырыні і даўжыні расадных плошчаў, выражаюцца ў квадратных сантыметрах. Але лепш, каб паказчыкі былі кубічнымі — улічвалася б і глыбіня.

| Культура | Плошча сілкавання ў адкрытым грунце і цяпліцах (у см) | | Плошча сілкавання расады (у см) |
|---|---|---|---|
| | Паміж радамі | Паміж раслінамі | |
| Памідоры | | | |
| нізкарослыя | 60-70 | 30-50 | 10x10 |
| высакарослыя | 90 | 50 | 10x10 |
| Агуркі | 70-90 | 30-50 | 8x8 |
| Морква | 18-20 | 4-6 | — |
| Капуста | | | |
| белакачанная | 60-70 | 25-40 | 6x7 |
| Буракі | 45 | 8-10 | — |
| Кабачкі | 70x90 | 70 | 12x12 |
| Пятрушка | 30-40 | 10-15 | — |
| Сельдэрэй | 40-45 | 10-16 | 5x5 |
| Цыбуля | 25 | 8-10 | — |
| Боб | 35-40 | 15 | — |
| Фасоля | 35-40 | 10-15 | — |
| Перац | 50-60 | 30-35 | 8x8 |
| Гарох | 25-40 | 10-15 | — |
| Бульба | 60-70 | 30-40 | — |
| Бручка | 45 | 30 | — |
| Рэдзька | 45 | 10-15 | — |
| Рэпа | 20-30 | 5-8 | — |
| Часнок | 45 | 6-10 | — |
| Баклажаны | 60 | 3-4 | 8x8 |
| Гарбузы | 150-200 | 150-200 | 12x12 |

# НА СВАЕ ВОЧЫ

## Дзесяць гектараў камунізму ў пустыні

— ГЭТА НЕ КАЛГАС. Гэта святы камунізм, — адразу парыраваў наша правакацыйнае параўнанне Эмі Таран, наш спадарожнік і апавядальнік пра унікальную з'яву ў ізраільскім грамадстве — кібуц. Эмі некалькі дзесяцігоддзяў назад эмігрыраваў сюды з Украіны. Працуе не тут, а ў Іерусаліме, у яўрэйскім агенцтве Сахнут. Мае зарплату ў месяц чатыры тысячы долараў. Ёй не карыстаецца — аддае ў агульную касу. Узамен на «кішэнныя расходы» мае тысячу шэкеляў (крыху больш за 30 долараў) у квартал. Плюс усё тое, што па праву належыць чалавеку ў нармальным камуністычным грамадстве — усё для задавальнення шматгранных патрэб: ежа, адзенне, уборка-мыццё, кіно, дагледжаныя дзеці і г. д. Нават бар з бясплатнымі напоямі (не толькі безалкагольнымі). Хаця з апошнім, зазначыў на наша зацікаўленае пытанне Эмі, асаблівых праблем у кібуцы няма: правільна выхаваны чалавек не будзе глушыць сваю перадавую свядомасць штучным метадам. А як жа, пацікавіліся мы, нашы былыя суайчыннікі, якія разпораз паступаюць у кібуц, хіба адразу забываюцца на сваю шкодную спадчыннасць? Не адразу, згадзіўся Эмі, але ж, як гаварыў вялікі яўрэй Карл Маркс, калі абставіны вызначаюць чалавека — трэба змяніць абставіны. Абставіны мяняюцца, — мяняюцца і людзі. Да таго ж «кібуцнікамі» становяцца не адразу. Гэта куды больш складана, зазначыў Эмі, чым у вас у свой час было ўступіць у партыю: выпрабавальны тэрмін — год-два, прычым тваю працу і тваё перакананні людзі бачаць кожны дзень, нікуды не схаваешся. Падтрымліваеш усім жыццём ідэю — застаешся, а ў адваротным выпадку — развітваешся. А ідэя, сказаў Эмі, — там, дзе Ленін. Вы яе за 70 гадоў загубілі, а мы — ажыццявілі. Прыхільнікаў ідэі нямала, прычым па ўсім свеце. Сюды едуць многія добраахвотнікі — з Фінляндыі многа.

З ідэяй разабраліся, а цяпер проста пападарожнічаем па камунізму. Кібуц, куды мы трапілі (а іх у Ізраілі каля 270) размешчаны ў 70 км ад Іерусаліма. Мне яшчэ хочацца дадаць — і ад цывілізацыі, бо тыя крыху больш за гадзіну, што мы дабіраліся сюды, прыпалі ў асноўным на мёртвую пустыню — суцэльныя камяні, дзе-нідзе вярблюды і толькі адно (не ведаю як сказаць: насаджэнне? лес? гай?) фінікавых пальмаў. Пустынны бераг Мёртвага мора. Легендарная гара Масада, што тры гады вытрымлівала разам са сваімі насельнікамі асаду заваёўнікаўрымлян. І раптам ты трапляеш у казку. Цвітуць ружы і фрэзіі, шчабечуць птушкі, зеленеюць розныя экзатычныя дрэвы. — папайя, какос, хлебнае дрэва. За ўсім сочыць ландшафтны архітэктар. Выходзіць Эмі і вядзе па дагледжаных дарожках, каля пастрыжаных і палітых газонаў. Ад кантрасту і сам пачынаеш ужываць словы ці то «рай», ці то «камунізм». (А можа, гэта адно і тое ж?).

Між тым, кібуц «Эйн Гедзі» (перакладаецца як «козлік», сімвалічную выяву якога вы бачыце на здымку) — не камуністычны, а хутчэй, як растлумачыў наш экскурсавод, сацыялістычны. У першых (такія таксама ёсць) абагульнена літаральна ўсё. Дзеці з радзільнага дома трапляюць у дзіцячы сад і там выхоўваюцца. У «нашым» кібуцы дзеці жывуць з бацькамі да 15 гадоў. Ад трох месяцаў да 5 гадоў ходзяць у дзіцячы сад (у групах не больш за 5 чалавек), потым — школа. Класы таксама маленькія — да 15 чалавек, што дае магчымасць атрымліваць моцнае індывідуальнае выхаванне і адукацыю. Самі даглядаюць маленькі заапарк, дзе сабраны хатнія і дзікія жывёлы — прадстаўнікі фауны рэгіёна. Вучацца працаваць, клапаціцца пра жывых істот. Дарослыя тут нічога не робяць і не напамінаюць.

З 15 гадоў дзеці жывуць асобна ад бацькоў. Вучацца, два разы на тыдзень працуюць. На занятки іх ніхто не будзіць, няма выхавальнікаў. Ёсць сястра-гаспадыня. «Для іх гэта — маленькі кібуц, — расказаў Эмі. — Але не бардак. Яны сочаць за парадкам, выбіраюць сваіх важатых. Галоўнае, на што накіравана такое ўладкаванне — выхаванне свабоды і адказнасці. Школа не выкідвае дзяцей у свет, а вучыць самастойнасці. У тым ліку і самастойнасці выбару».

Дзве дачкі Эмі зрабілі свой выбар. На жаль, не на карысць ідэям бацькі. Адна вывучае ва універсітэце гамеапатыю, другая — японскую мову. Абедзве спецыяльнасці патрэбны кібуцу, па словах бацькі, як рыбе з Мёртвага мора парасонік. Але не гэта галоўнае. Дочкі не хочуць пасля атрымання вышэйшай адукацыі жыць у кібуцы. Што ж, Эмі паважае іх выбар. У «камунізме» жыць няпроста (усе пра ўсіх усё ведаюць. Калі мая жонка цяжарная — кібуц ведае раней, чым я сам.).

— Але гэтым мы і адрозніваемся ад вас. У нас ёсць выбар. А вы пад прымусам будавалі камунізм для ўсіх.

У ізраільскіх кібуцах жывуць каля трох працэнтаў насельніцтва. Займаюцца ў асноўным сельскай гаспадаркай. Ёсць яшчэ машавы — сельскагаспадарчыя пасёлкі, дзе кожная сям'я мае свой дом і зямельны ўчастак, а закупкі, збыт і камунальнае абслугоўванне — агульнае. У кібуцах сродкі вытворчасці належаць усяму калектыву (хаця зямля — дзяржаўе, як і паўсюдна ў Ізраілі. Яна даецца ў арэнду на 99 гадоў.). Абедзве формы — аснова сельскай гаспадаркі краіны.

Але кібуц «Эйн-Гедзі» — не сельскагаспадарчы. Асноўная яго дзейнасць — абслугоўванне турыстаў. Побач — Мёртвае мора, куды з усяго свету людзі едуць адпачываць і лячыцца (тут знаходзіцца сусветны цэнтр захворванняў скуры). «Эйн-Гедзі» мае свой гатэль на пабярэжжы. Мы жылі ў адным з такіх гатэляў, дзе зноў жа хочацца ўспомніць словы «рай» і «камунізм». Цудоўныя краявіды, басейны, сауна, розныя масажы, славутыя гразі Мёртвага мора, патрэбнае лячэнне, выдатнае харчаванне па прынцыпу «шведскага стала» — тры разы на дзень. Купанне ў моры — само сабой. І ўсёй гэтай радасці — колькі хочаш. Па патрэбнасцях. За 200 долараў у суткі.

Так што асноўны занятак кібуцнікаў — праца ў гатэлі. Ёсць яшчэ доля ў фабрыцы па вытворчасці касметыкі (вы ж ведаеце рэкламу «Самае нізкае, самае салёнае...» Касметыка сапраўды выдатная (хаця нятанная). Мы там пабывалі і што-нішто набылі. Чакаем вынікаў.

А калі ў чалавека ёсць тыя ці іншыя здольнасці, яму ствараюцца ўмовы для іх рэалізацыі. Жанчыны з мастацкім густам і ўменнем спалучаць фарбы расквечваюць шаўковыя кашулі, шалікі і гальштукі для продажу зноў жа турыстам. Зарабляюць грошы для кібуца. Астатняя праца — па абслугоўванню членаў апошняга. Дзяжурства ў сталоўцы (Эмі з ягонай вышэйшай адукацыяй раз на месяц з задавальненнем там працуе), мыццё бялізны (у кожнага — свой нумарок на ўсіх прадметах туалета і розных там прасцінах, фіранках і сурвэтках).

Пра сталоўку трэба сказаць асобна, хаця б у знак падзякі за «камуністычны» (бясплатны) абед. Харчаванне мала чым адрозніваецца ад «шведскага стала» ў пяцізоркавым гатэлі. На выбар — мноства садавіны і агародніны, салатаў, стравы з мяса, рыбы і птушкі («толькі не падумайце, што вас чакалі і паказуху наладзілі, — так у нас заўсёды, людзі павінны харчавацца, як і ў сям'і»). Абед — па раскладу, а калі «патрэбнасці» заявілі аб сабе ў пазаўрочны час, ёсць вялізны халадзільнік. Здаралася, людзі, што прыехалі з былога Саюза і тут пасяліліся, прыходзілі ў сталоўку і напакоўвалі з халадзільніка сумкі. Ім тлумачылі: не трэба, тут заўсёды ёсць, халадзільнік адкрыты 24 гадзіны ў суткі.

Кватэры ў кібуцы таксама не замыкаюць. Адзінокія жывуць у дамах на паўтара пакоя, астатнія — у залежнасці ад саставу сям'і. Кібуц аплачвае вучобу студэнтаў, а тыя ў сваю чаргу павінны сто дзён у годзе працаваць на калектыў.

— І што, у вас усе — ідэальныя людзі? — папыталі мы ў Эмі. — Як і ўсюды — не, адказаў ён. Ёсць гультаі, якіх трэба выхоўваць, але з кібуца за гэта не выключаюць: выдаткі сваёй жа сістэмы. Выключаюць толькі за крымінальныя парушэнні, згодна з дзяржаўнымі законамі.

Тут любяць гуляць вяселлі — усім саставам. Застолле збіраецца немалое — у кібуцы 240 яго членаў, а ўсяго 650 чалавек, з іх больш за палову — дзеці. У суджаныя выбіраюць не толькі мясцовых — кібуцу патрэбна новая кроў. Штогод нараджаецца 17-8 дзяцей.

— Мы не робім рэвалюцый, перабудоў, — заканчвае свой расказ Эмі. — Мы старанна абдумваем кожны новы крок, абмяркоўваем (не радзей чым раз на месяц праходзяць агульныя сходы). Кібуц — школа таго, як можна дамаўляцца, у тым ліку і ў сусветным маштабе. Калі сустракаюцца два вектары — заўсёды ёсць трэці.

— Такім чынам, за сусветную кібуцізацыю, Эмі?

— Шкоды не было б. Але — без рэвалюцый.

**Людміла РЫЖАНКОВА.**

*З ДАСЬЕ ПРАКУРАТУРЫ*

## ІНВАЛІДАЎ — У ВОЙСКА?

Праверкай, якая праведзена ваеннымі пракурорамі ў паднаглядных раённых і гарадскіх ваенных камісарыятах, выяўлена значная колькасць ваеннаслужачых, непрыгодных па стану здароўя да воінскай службы, аднак у парушэнне Закона «Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе» прызваных ва Узброеныя Сілы. Як сведчаць матэрыялы даволі прынцыповай праверкі супрацоўнікаў ваеннай пракуратуры, датэрміноваму звальненню ў запас гэтай катэгорыі ваеннаслужачых садзейнічала неглыбокае вывучэнне асобы прызыўнікоў як работнікамі ваенкаматаў у перыяд прыпіскі іх да прызыўных участкаў і ў час прызыву, так і памылкі, што дапускаюцца медыцынскімі камісіямі, якія камплектуюцца з ліку ўрачоў Міністэрства аховы здароўя.

У пагоні за колькаснымі паказчыкамі выканання плана камплектавання войскаў прызыўныя камісіі і медыцынскія спецыялісты раённых і гарадскіх бальніц павярхоўна правяраюць стан здароўя прызыўнікоў. З гэтай прычыны толькі за трэці квартал 1995 года з Узброеных Сіл звольнена па хваробе 145 чалавек, 13 ваеннаслужачых тэрміновай службы звольнена з МУС.

Адным з прыкладаў з'яўляецца звальненне радавога в/ч 65263 С. Ігнаценкі. Бацькі Ігнаценкі пакутавалі ад алкагалізму, бацька таксама стаяў на ўліку ў псіхіятра. Сам С. Ігнаценка каля 5 гадоў знаходзіўся пад наглядам псіхіятра Гродзенскага абласнога псіханеўралагічнага дыспансера з прычыны затрымкі псіхічнага развіцця, вызначаўся нервознасцю і запальчывасцю. Аднак глыбока і ўсебакова яго асоба не была вывучана, стацыянарна яго не абследавалі і прызвалі на тэрміновую службу, якую праз паўтара месяца ён самавольна пакінуў. Потым добраахвотна з'явіўся ў праваахоўныя органы і пасля абследавання быў прызнаны непрыгодным да ваеннай службы.

Прызыў на службу асоб, якія маюць псіхічныя і фізічныя адхіленні, цягне за сабой правапарушэнні, самазабойствы, стварае шматлікія скаргі ў розныя інстанцыі іх бацькоў і сваякоў.

Любанскім РВК прызваны на службу Н. Віткоўскі, у далейшым звольнены з дыягназам «адсутнасць двух пальцаў на ўзроўні аснавы сярэдніх фалангаў і яшчэ аднаго пальца на ўзроўні галоўкі сярэдняй фалангі правай кісці з парушэннем функцыі кісці».

Кастрычніцкім РВК г. Гродна накіраваны ў войска А. Нарэйка, які з'яўляецца хранічным алкаголікам 1-2 стадыі.

Незразумела, чым кіраваліся службовыя асобы ваенкаматаў, урачэбныя камісіі, прызываючы ў войска такіх салдат. І наогул, як можна павысіць з імі баяздольнасць арміі? Відаць, прыйшоў час пракурорам больш рашуча прымаць прадастаўленыя законам меры крымінальна-прававога характару да тых службовых асоб, якія дапусцілі прызыў такіх салдат у армію. У 1995 г. толькі з прызыўнікоў веснавога перыяду звольнены ў запас па хваробе 221 чалавек.

Хто верне нанесеныя дзяржаве страты?

Толькі ў 1995 годзе ва Узброеных Сілах зарэгістраваны 42 самазабойствы, з іх 34 учынілі ваеннаслужачыя тэрміновай і кантрактнай службы (10 прызваны ў Віцебскай вобласці, 8 — у Мінскай, 6 — у Брэсцкай, 5 — у Гомельскай, 4 — у Магілёўскай).

У ходзе следства па фактах самазабойства, праведзенага ваеннымі пракурорамі, устаноўлена, што пераважная большасць гэтых асоб па псіхічнаму стану не падлягалі прызыву ва Узброеныя Сілы.

Менш за месяц праслужыў у арміі радавы В. Івашка, прызваны Заводскім РВК г. Мінска, які ўчыніў самазабойства. Асоба Івашкі да прызыву вывучана на нізкім прафесіянальным узроўні. У ходзе следства ад сваякоў стала вядома, што Івашка да прызыву ўжо двойчы спрабаваў паконччыць з сабой.

Існуючая сістэма медыцынскага агляду прызыўнікоў сябе зжыла і яе неабходна наблізіць да ўчастковых паліклінік па месцы жыхарства моладзі.

Генеральным пракурорам В. Капітанам па матэрыялах праверкі накіравана прадстаўленне міністру аховы здароўя І. Драбышэўскай, дзе прапанавана неадкладна прыняць меры па ўдасканаленню існуючай сістэмы медыцынскага агляду прызыўнікоў і прыцягнуць да строгай дысцыплінарнай адказнасці медработнікаў, якія дапусцілі неабгрунтаваны прызыў.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.**

*Віншуем з 30-годдзем* ***ЛЫСЮК Алену Мікалаеўну!*** *Жадаем моцнага здароўя, шчасця, поспехаў ва ўсім і заўсёды, даўгалецця.*

**Тата, брат Слава і яго сям'я.**

## ПРАДАЕЦЦА

**ДОМ** у Радашковічах, 12 сотак зямлі. Тэл. 66-33-37.

Новая 4-пакаёвая **КВАТЭРА** ў пасёлку Навасады, 12 км ад Барысава, гараж, участак і інш. Тэл. (01777) 70-4-12.

**ШЧАНЯТЫ** французскага бульдога. Тэл. (0172) 2-20-49-26 пасля 18.00.

**АЎТАМАБІЛЬ** ГАЗ-69 у добрым стане. Тэл. (8-01597) 71-1-42.

**ВАЗ-21_63**, 86 г.в., прабег 105 тыс. км, за 2850 $. Звяртацца: г.Маладзечна, вул.Нахімава, 31.

**ДОМ** з садам у раёне возера Сялява, аўтамабіль КАЗ-608 у рабочым стане, нядорага. Тэл. (8-277) 32-8-57 з 9 да 16.

**ТРЫ ДОЙНЫЯ КАЗЫ**, можна з маладняком. Звяртацца: 222611, Нясвіжскі раён, Гарадзея, цукровы завод, вул.Савецкая, 6, кв.9.

**ДОМ** 60 кв.м з гаспадарчымі пабудовамі, сад, участак, водаправод у Докшыцкім раёне. Тэл. (8-02157) 24-5-48.

2-пакаёвая **КВАТЭРА** ў г.Ганцавічы Брэсцкай вобл. Даведкі ў Асіповічах па тэл. 2-30-73 у рабочыя дні і час.

**УЧАСТАК** 26 сотак, 3 км ад горада, двух'ярусны ложак, 2- спальныя ложкі. Усё б/к. 230005, г.Гродна, вул.Курчатава, 4О 16.



## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 27 сакавіка

**Беларускае тэлебачанне**

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.50** Эканамікст.
**8.00** Навіны.
**8.15** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял.
**9.10** «Залаты ключык». Тэлеспектакль.
**10.15** «Літарынка».
**11.05** «Госця з будучыні». Мастацкі фільм. 3-я серыя.
**12.10** «Зорная ростань». Тэлеконкурс маладых артыстаў эстрады.
**12.50** Відзьма-нявідзьма.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Слухаць у адсеках». Маст. фільм. 2-я серыя.
**16.20** Студыя «Акно». «Танцавальныя рытмы», «Класіка двароў».
**16.50** «Востры вугал». Публіцыстычная праграма.
**17.20** Госці ў хату.
**17.50** Эканамікст.
**18.00** Да Міжнароднага дня тэатра. «Тэатральны Бамонд». Трансляцыя з тэатра імя Янкі Купалы.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Вяртанне ў Эдэм». Тэлесерыял.
**20.00** «Тэатральны Бамонд» (працяг).
**20.30** «Хто гэта?» Тэлегульня.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.05** «Інспектар крымінальнай паліцыі». Шасцісерыйны мастацкі фільм (Італія).1-я серыя.
**23.45** Каралеўскае паляванне. У перапынку **(24.00)** — Навіны.
**0.40** «12, ці На ноч гледзячы». Забаўляльная праграма.

**ГРТ**

**5.00** Тэлераніца.
**8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.20** Навіны.
**8.15** «Сакрэт трапіканкі».
**9.05** «Каб памяталі...» Н.Рыбнікаў. Вядучы Л.Філатаў.
**9.45** У свеце жывёл.
**10.30** «Адгадай мелодыю».
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Кантакт — дзелавое супрацоўніцтва краін Садружнасці».
**11.40** «Месца сустрэчы змяніць нельга». 1-я серыя.
**12.50** «Корцік». 2-я серыя.
**15.35** «Элен і хлопцы».
**16.00** Тэт-а-тэт.
**16.30** Сем дзён спорту.
**17.20** «Сакрэт трапіканкі».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** «Адгадай мелодыю».
**19.05** Тэма.
**19.45** «Спакойнай ночы, малышы!»
**20.00** Час.
**20.30** Аперацыя.
**20.45** Праграма перадач.
**20.50** Цырымонія ўручэння прэмій амерыканскай кінакамедыі «Оскар-96». Трансляцыя з Лос-Анжэлеса.
**22.40** Ігар Маісееў у праграме «Мужчына і жанчына».
**23.30** «Месца сустрэчы змяніць нельга». 1-я серыя.

**Канал «Расія»**

**9.05** «Новыя шпітальеры». Дак. фільм.
**10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**10.20** Міліцэйская хроніка.
**10.30** Мульці-пульці. «Бюро знаходак».
**10.45** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял.
**11.15** Рэпартажы з месцаў.
**15.05** Свята кожны дзень.
**15.15** Там-там навіны.
**15.30** Чый бок?
**16.20** Далёкі Усход.
**16.50** Ніхто не забыты.
**16.55** Вас запрашае фірма...
**17.10** Кіпрас Мажэйка. «Паралелі».
**17.25** Свая гульня.
**17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны».
**19.25** Падрабязнасці.
**19.45** «Маска», хто ты?». Цырымонія ўручэння Нацыянальнай тэатральнай прэміі «Залатая маска».
**22.30** Рака часу.
**22.35** Аўтаімгненне.
**22.40** Рэк-тайм.
**22.55** «Спрут-6». 12-я серыя.
**24.00** Вінілавыя джунглі.

**Санкт-Пецярбург**

**12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ.
**12.10** «Першае каханне». Серыял.
**13.10** Хуткая дапамога.
**13.40** Парады садаводам.
**13.50, 15.25, 21.40** Музычны момант.
**14.10** «Судны дзень». Мастацкі фільм (Узбекістан).
**15.40** «Нямецкая хваля».
**15.55** Стыль жыцця.
**16.10** Спявай з намі.
**16.30** Дзіцячае ТБ. «Баламуты».
**17.10** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.10** Вялікі фестываль.
**18.50** Спартыўныя навіны.
**18.55** «Першае каханне». Серыял.
**19.50** Тэлеслужба бяспекі.
**20.00** Гадзіна мэра.
**21.00** Блеф-клуб.
**22.00** Спорт, спорт...
**22.15** Міжнародны дзень тэатра. «На Васільеўскім — тэатр».
**22.45** Акцёрскі клуб.

**«Расійскія універсітэты»**

**7.50** «Бегемот Гуго». Мультфільм (Венгрыя — ЗША).
**9.00** Новыя межы і стары тэатр.
**9.30** Нямецкая мова. 1-ы і 2-і гады навучання.
**10.35** Шоу эстрадных зорак.
**11.30** У рабочы поўдзень.
**12.30** Гадзіна «Рэаліста».
**13.35** Адкраменне. Вольга Казлоўская.
**13.55** «Пра Чырвоную Шапачку». Маст. фільм. 2-я серыя.
**15.05** Але-ап!
**15.35** Сустрэчы на Старым Арбаце. І.Вішнеўская.
**16.15** «Тэма з варыяцыямі». Аднаактны балет Дж.Баланчына на музыку П.І.Чайкоўскага.

**НТБ**

**17.00** «Цудоўныя гады». 108-я серыя (ЗША).
**17.30** На шляху да Атланты.
**18.00, 21.00, 23.00** «Сёння».
**18.35** Герой дня.
**19.00** Свет кіно. Маст. фільм «Шалёны пёс» (ЗША).
**20.35** «Як казакі нявест выручалі». Мультфільм.
**21.35**. Гадзіна серыяла. «Слова». 3-я серыя (ЗША).
**22.30** Часінка.
**23.20** Кафэ «Абломаў».

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».
Рэгістрацыйны нумар 1.

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 32-44-12, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-35-05, 68-27-83.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113.326. Індэкс 63.850. Зак. № 1522.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12